# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

Цана нумэру 50 кап.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных са ўсю абвестку 2 рублі.

ВЫХОДЗІЦЬ ТРОЙЧЫ У ТЫДЗЕНЬ.

Рэдакцыя і Адміністрацыя-- **Вострa-Брамская, № 9**— адчынена што дня, апрача сьвята, 8—12 і 3—5.

**Год I.** **Вільня, Серада 21 мая 1919 г.** **№ 11.**


## БЕЛАРУСКІ СХОД.

**У нядзелю 25-га мая, у 5 гадзін па палудні адбудзецца** беларускі сход. Сход склікаецца Беларускай Радай у залі Рады (там, дзе Беларуская гімназія) на Востра-Брамскай вул., № 9 (Сьв. Троіцкі манастыр.)

ПРАГРАМА СХОДУ:

1) Беларусы і агульна-палітычнае палажэньне.
2) Арганізацыя і выбары Беларускага Нацыянальнага Камітэту м. Вільні.
3) Разьвіцьце коопэратыва і профэсыянальных саюзаў сярод беларусаў.
4) Бягучыя справы.

**На сход запрашаюцца усе беларусы-жыхары м. Вільні.**

- **Беларускі сход у Вільні.**
- **75,000 літоўскага войска стаіць гатовым.**
- **Хаурус Нямеччыны з Расеяй.**
- **Петлюра засуджан на сьмерць.**
- **Забастоўка у Варшаве.**
- **Перад крызысам польскага кабінэту.**

*Хто прыезджае у Вільню і мае хоць калі́цца часу пахваліцца сваімі мясцовымі, месьячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,— ніхай ен будзе ласкаў не абмінуць сваю беларускую рэдакцыю.*





*Вільня, 20 мая 1919 года.*

Агульны сход віленскіх беларусаў адбудзецца, у нядзелю 25-га мая.

Не сумляваемся, што пачынальнікі гэтай вельмі важнай і надта добрай справы як мае быць падрыхтуюць сход і самі падрыхтуюцца да яго.

Але, казаў той, „мы вызвалімся толькі сваімі рукамі“, і асабліва гэтае правіла трэба памятаць цяпер віленскім беларусам.

Нашае нешчасьце і нешчасьце вялікае, што мы змалку прызвучаны, як былі прызвучаны нашыя бацькі і дзяды, каб намі нехта апекаўся, каб нехта аб нас клапаціў.

Гэтак жыць цяпер ня можна, іначай, да-праўды, народ наш і мы, яго інтэлігенцыя, пагінем, як нацыя, і на доўгі час займём палажэньне уціснутага кляса пры уціскаючых каясах другіх нацыяў.

Беларускае адраджэньне трэба разумець у самым шырокім значэньню слова, як адраджэньне духоўнае і матэр'яльнае. А дзеля таго, што паноў-*беларусаў*, ахвотнікаў панаваць над сваім народам, у нас німа, адраджэньне нашае мае поўную гармонію у пытаньнях палітычных і клясавых. Апроч жа таго, дзякуючы нашай справядлівасьці у клясавых пытаньнях, да беларускай адраджонай грамады лучацца усе грамадзяне Беларусі бяз рожніцы веры і нацыі, каторыя з адраджэньнем Беларусі, пасьля усяго таго, што цяпер ёсьць, цесна зьвязываюць свой нацыянальны і клясавы добрабыт.

І дзеля таго рух беларускі расьцець у масах, прыймаючы вельмі жаданы нацыянальна-класавы рактар.

І толькі інтэлігенцыя ці, праўдзівей, гарадзкая інтэлігенцыя беларуская яшчэ не захапілася ім як мае быць.

Цяпер яе піхаюць на беларускае усьведамленьне і згуртаваньне, прынамсі тут у Вільні, таксама і матэр'яльныя пытаньні.

І калі, з аднаго боку, павадыры руху мусяць дужа шкадаваць, што німа моцных эканаміцких беларускіх арганізацыяў, дык новыя сілы, з другога боку, перш-на-перш мусяць паправіць гэтую загану у адраджэньні беларусаў.

Самая лепшая нацыянальная арганізацыя у нашы часы сканае скорай сьмерцьцю, калі ня будзе мець пад сабою добрага эканаміцкага падмурку.

І саўсім зразумела, бо прышлі такія часы, што людзям трэба усе сілы пакладаць, каб ня ўмерці з галаду, а патрэбы духа, у тым ліку нацыянальныя пытаньні—губяць у іх вачох усякую цану.

Лепшага розуму ад галоднага чалавека вымагаць ня можна.

І калі толькі страшная здань галоднай сьмерці далёка адсуніцца ад яго, ён пачынае разумець вялікую рожніцу паміж стратаю духоўнаю і матэр'яльнаю, вялікую рожніцу паміж сорамам і болем за страту першую і другую.

І кажды віленскі беларус, ідучы на агульны сход, павінен памятаць, што у яго цяпер дзьве сьцежкі: адна — пайсьці у батракі на ўсход ці на захад, задаўніваць сучаснае пякельнае палажэньне Беларусі і зьбіваць труну свайму народу; другая— зьліўшыся з адраджонай беларускай грамадою, аддаць усе сілы на абарону нацыянальных і клясавых патрэб свайго народу, добра ведаючы, што гэткім спосабам найлепей будуць абаронены і яго асабістыя патрэбы.

